**№ 89 (4136)**

15 лістапада 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.



www.nv-online.info

# Народная Воля


*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**




«Народная Воля»
в Twitter www.twitter.com/narodnaya_volya
в Facebook www.facebook.com/nv.online.info
в Vkontakte www.vk.com/nvonlineinfo


ТРАГЕДЫЯ

## ...У яго і вадзіцельскага пасведчання не было


Фота GAIBREST.by

На гэтым здымку вы бачыце тое, што засталося ад аўтамабіля «Фальксваген Пасат».

Страшэнная аварыя здарылася ўчора раніцай на... вясковай вуліцы ў Камянецкім раёне. Можна толькі здагадвацца, на якой хуткасці мчаўся 20-гадовы Яўген Панасюк. Дарэчы, у яго і вадзіцельскага пасведчання не было: ён наогул яго ніколі не атрымліваў. Але гэта не перашкодзіла ліхачу ўзяць з сабой у паездку сябра-аднагодку. Абодва не былі прышпілены рамянямі бяспекі.

Інспектары ДАІ Брэсцкай вобласці засведчылі: «Аўтамабіль «Фальксваген Пасат» пры здзяйсненні манеўру абгону выехаў на паласу сустрэчнага руху, не справіўся з кіраваннем, здзейсніў наезд на плот, пасля чаго ўрэзаўся ў дрэва. У выніку сутыкнення кіроўца і пасажыр 1996 года нараджэння загінулі на месцы ДТЗ». Адбылася трагедыя ў вёсцы Ставы Камянецкага раёна.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

ЦЫТАТА ДНЯ

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

*– Рыхтуйцеся набраць сярэдні заробак у 500 доларaў у будучым годзе... Я не кажу, што павінны плаціць незаробленыя грошы. Ні ў якім разе. Інакш мы вернемся да таго, з чаго пачыналі два гады таму. Мы павінны стымуляваць, падштурхоўваць кіраўнікоў прыватных і дзяржаўных прадпрыемстваў да таго, каб мы да 500 доларaў наблізіліся.*

**(Падчас рабочай паездкі ў Магілёўскую вобласць, 14 лістапада 2016 г. )**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Мытнікаў будуць судзіць адкрыта

Пачынаюцца суды над ашмянскімі мытнікамі, якія ў складзе ўсёй змены былі затрыманы больш за паўгода таму. Тады КДБ паведамляла, што затрымана 19 чалавек. Па месцы жыхарства фігурантаў канфіскавана больш за 2,2 мільёна долараў. Толькі ў начальніка змены пад ваннай знайшлі 1 мільён 800 тысяч долараў.

З часу затрымання яны знаходзяцца ў СІЗА на вуліцы Валадарскага ў Мінску. На гэты момант следчыя дзеянні скончаны, справы падсудных перадалі па розных мінскіх судах.

Так, у пятніцу 18 лістапада, паведамляе Радыё Свабода, у судзе Партызанскага раёна будзе разглядацца справа беларускамоўнага мытніка, краязнаўцы і завадатара культурнага жыцця на Астравеччыне Алеся Юркойця. Суд будзе адкрыты.

**Ганна ГАНЧАРЫК.**

РАЗБОР ПАЛЁТАЎ

## Аляксандр Хацкевіч працягне кіраваць камандай

Нагадаем, што ў мінулую нядзелю беларусы прайгралі ў гасцях зборнай Балгарыі (0:1) у матчы адбору на чэмпіянат свету 2018 года. Адразу пасля гульні Хацкевіч і старшыня Беларускай федэрацыі футбола Сяргей Румас дамовіліся сустрэцца ў Мінску.

У выніку кіраўнік федэрацыі футбола вырашыў, што галоўны трэнер працягне кіраваць зборнай падчас адборачнага цыкла. Кантракт Аляксандра Хацкевіча разлічаны да лістапада 2017 года.

ПАД ГРАДУСАМ

## Гальфстрым нас сагрэе

Яшчэ сёння, 15 лістапада, у Беларусі захаваецца зімовае надвор'е. А з серады, кажуць сіноптыкі, на надвор'е ў краіне пачне ўплываць атлантычны цыклон, які нясе паветра, нагрэтае Гальфстрымам. Адпаведна, пачне павышацца тэмпература паветра. Уначы 16 лістапада на захадзе краіны, а днём і ў цэнтральных раёнах чакаюцца кароткачасовыя ападкі – мокры снег, па захадзе з дажджом. Уначы тэмпература паветра чакаецца -6...+1°С, удзень сіноптыкі абяцаюць -3...+3°С.

У чацвер удзень тэмпература паветра падымецца яшчэ вышэй – будзе -1...+6°С. Праўда, без ападкаў не абыдзецца: на большай частцы Беларусі чакаюцца кароткачасовыя ападкі – мокры снег, які пераходзіць у дождж. Дажджы чакаюцца і ў пятніцу, тэмпература – +1...+6°С, па паўднёвым захадзе паветра прагрэецца да +8°С.

ЗЕМЛЯКІ

## Алег Навіцкі зноў ляціць у космас

*Старт прызначаны на 17 лістапада.*



Нагадаем, што першы раз наш зямляк, ураджэнец Чэрвеня Алег Навіцкі паляцеў у космас 23 кастрычніка 2012 года. Камандзіроўка доўжылася амаль пяць месяцаў.

*«Скафандр, у якім мы ляцім на караблі, важыць каля 12 кілаграмаў*, – не так даўно распавядаў Алег Навіцкі журналістам. – *А той, які прызначаны для працы ў адкрытым космасе, – больш за 100 кілаграмаў. Але ва ўмовах бязважкасці такой груз не адчуваецца».*

Касманаўты вяртаюцца на зямлю злёгку падрослымі. Аказваецца, у космасе яны растуць!

*«З-за таго, што адсутнічае гравітацыя і на пазваночны слуп няма нагрузкі, цела выцягваецца*, – распавядае Алег Навіцкі. – *Я пасля першага палёту падрос на некалькі сантыметраў. Але пасля вяртання на Зямлю паступова ўсё вяртаецца ў ранейшы стан. Адчуванні, прама скажу, не з прыемных – ные спіна. Наогул, у космасе парушаецца праца вестыбулярнага апарата, таму адразу пасля вяртання цябе нясуць на руках альбо падтрымліваюць. У бязважкасці вельмі слабеюць сасуды, першы час усё плыве перад вачыма...»*

25 красавіка гэтага года Алег Навіцкі другі раз стаў бацькам. Дачку назвалі Маргарытай.

*“Дзяўчынку ўзяў на рукі праз 47 хвілін пасля яе нараджэння*, – ганарыцца бацька. – *Мы з жонкай заўсёды хацелі дваіх дзяцей».*

Алег Навіцкі кажа, што сёння для поўнага шчасця яму не хапае толькі прыватнага дома і матацыкла.

*«Я вырас у доме, таму хачу ўласны ўчастак*, – кажа ён. – *І добра, каб побач з лесам, – люблю сямейныя прагулкі на свежым паветры...»*

Дарэчы, паведамлялася, што па дамове арэнды касманаўту далі ўчастак зямлі ў “Драздах”: за 15 сотак Алег Навіцкі будзе плаціць 340 рублёў у год. Пры гэтым сума не будзе індэксавацца.

НУ І НУ!

## За што пенсіянера адправілі ў Навінкі?

*Учора 80-гадовага Аляксандра Лапіцкага, якога раней Фрунзенскі раённы суд Мінска прызнаў вінаватым у паклёпе на прэзідэнта і іншых дзяржаўных чыноўнікаў, накіравалі на прымусовае лячэнне ў псіхіятрычную бальніцу.*

Нагадаем, што рашэнне раённага суда было вынесена яшчэ ў красавіку гэтага года, але 17 кастрычніка была пададзена скарга ў парадку нагляду на імя старшыні Мінскага гарадскога суда.

*“Мы прасілі прыпыніць уступленне судовай пастановы ў сілу да таго часу, пакуль не будзе разгледжана гэтая скарга,* – кажа праваабаронца **Алег Волчак**. – *Але 14 лістапада пенсіянера забралі ў псіхіятрычную бальніцу, у якой чалавека могуць пратрымаць і год, і пяць гадоў. Дарэчы, магчыма, у бліжэйшы час Аляксандр Лапіцкі будзе прызнаны праваабарончай супольнасцю палітвязнем”.*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**



ОТКРЫТЫМ ТЕКСТОМ



Ирина ХАЛИП

## Люди в сером

Мы содержим огромную армию дармоедов, которые за наши деньги уничтожают плоды нашей работы и то, что нам дорого. Они вовсе не обязательно носят форму. Серое – это их образ жизни, высота полета мысли, степень свободы. У них две любимые фразы: «вы же сами все понимаете» и «работа у нас такая». Они отшатываются при виде книг, журналов, газет, фотографий. Все, что написано пером, кажется им взрывоопасным: возьмешь в руки книгу – а она взорвется и разнесет все вокруг, и твой мозг в первую очередь. Или парнишка с бело-красно-белым флагом спрыгнет с фотографии и начнет размахивать этим флагом посреди красно-зеленого раздолья. Или цитата оппозиционного активиста в независимой газете вдруг зазвучит из довоенного, невесть откуда взявшегося на столбе репродуктора голосом Левитана, а вокруг того столба народ соберется – и давай крушить режим. Поэтому информационное поле в стране должно быть стерильным, как операционная: резиновые перчатки, искусственный свет, марлевые маски на лицах, чтобы не заразиться опасной бактерией свободы.

7 ноября, в последний день осенних каникул, мы с сыном возвращались из Литвы. В чемодане было пять экземпляров книги моего мужа **Андрея Санникова** «Белорусская «американка», или Выборы при диктатуре». Все – с дарственными надписями для наших друзей. Книги лежали в чемодане корешками внутрь. То есть снаружи не было видно ни автора, ни названия. И сотрудница таможни, проводившая досмотр багажа, увидела вовсе не книги Санникова. Она увидела просто книги и – окаменела: «А это у вас что такое?!» Просто книги, твердый переплет, суперобложка. Четыре экземпляра из польского тиража и один – из российского, выпущенного в Москве буквально неделю назад.

Дальше, как водится, механизм завертелся, как белка в колесе. Звонки, переговоры по рации, «отгоните машину вон туда, мы ее сейчас заблокируем», официальные визиты в мой багажник всех, кажется, кто был на смене в тот день, рассматривание фотографий в книге. И, конечно, непременный тихий шелест-шепоток: «Вы только не подумайте чего… Мы ж со всей душой. Просто работа такая. Ну вы же сами все понимаете». Сами того не ведая, они цитировали книгу Андрея. Он в одной из глав пишет как раз об этом – как ему говорили «вы же сами все понимаете» десятки государственных карателей, от последнего вертухая в тюрьме и до больших кагэбэшных начальников.

– Мы не можем допустить, чтобы вы перемещали эту книгу по территории Беларуси – сказал мне начальник отдела таможенного оформления и контроля. – Мы отправляем ее на экспертизу.

– А вот смотрите, одна из книг издана вообще в России. То есть в Таможенном союзе.

– Не все то, что дозволено в России, разрешено белорусам. Не обольщайтесь насчет Таможенного союза.

– А кто будет проводить экспертизу?

– Идеологи.

– А разве есть такая профессия? И где ей обучают, в каком ПТУ? А разряд присваивают?

– Наши идеологи… дайте вспомнить… ну, по образованию они в основном историки.

Я себе представила экспертизу в исполнении белорусских государственных историков. «Коллега, вы помните, прецеденты уже были. В Германии в 1933 году, в Китае в третьем веке до нашей эры, в Чили в 1973 году, в Иране в 1946 году… Так что не будем изобретать велосипед. Ну что, пишем заключение?» «Конечно, пишем, коллега! Спасибо за экскурс».

Потом признанные не соответствующими государственной идеологии книги отправляются в КГБ, который в свою очередь обращается в суд с заявлением о признании их экстремистскими. Суд признает и выносит постановление об уничтожении. Сейчас, правда, уже ничего не сжигают – просто пускают под нож. Так уничтожали книгу **Павла Северинца** «Письма из леса» (Северинец – экстремист? Держите меня семеро!), газету **Анджея Писальника** «Glos znad Niemna na uchodzstwie», книгу **Павла Шеремета** и **Светланы Калинкиной** «Случайный президент», альбом «Пресс-фото Беларуси-2011». **Эдуарда Пальчиса** и вовсе продержали в тюрьме больше десяти месяцев за «экстремистские» записи в блоге.

А теперь представьте, сколько денег налогоплательщиков уходит на оплату бездарно проведенного рабочего времени толп всевозможных людей в сером. Над одним экземпляром газеты, пятью одинаковыми книжками, парой десятков экземпляров фотоальбома «трудятся» тьмы, и тьмы, и тьмы. Таможенники, которые это все изымают, тратят несколько часов на составление всех своих бессмысленных бумажек. Пара книг или газета на чужом языке попались в багаже – глядишь, и рабочий день прошел. Потом это все читают идеологи-эксперты – те, которые, по словам таможенников, историки. А это уже на всю рабочую неделю занятие, а то и на две. Составить заключение – еще неделя. То есть время от аванса до зарплаты тоже оплачиваем мы. Потом КГБ, плюс доставка. Вряд ли идеологи идут на почту и стоят в очереди в окошечко: нам бы тут бандерольку в КГБ отправить. Не-а, это фельдъегерская компетенция, не меньше. Потом кагэбэшники тоже читают. Не только заключение идеологов, но и книгу, разумеется. Или карточки в альбоме рассматривают. Потом свои заявления в суд пишут. Можно и месяц рабочего времени на это потратить. А потом еще и судьи долго и нудно «работают».

То есть мы с вами содержим огромную армию дармоедов, которые за наши деньги уничтожают плоды нашей работы или просто то, что нам дорого. А иногда и нашу собственную жизнь. Любой каприз за наши деньги. Я уже не говорю о тех, кто нас сажает. Толпа людей в сером прирастает омоновцами, вертухаями, прокурорами, следователями. Иногда мне кажется, что их уже намного больше, чем народа в Беларуси. А размножаются они простым делением: так быстрее и проще.

«Хартия'97»

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ



# Антон КУШНИР: «Старший сын уже пробует себя в хоккее»

*Олимпийский чемпион зимней Олимпиады в Сочи фристайлист Антон КУШНИР рассказал о спорте, травмах и семье.*

– Главное – провести сезон без травм, от которых устал, – цитирует спортсмена sportspanorama.by. – Я не знаю, выдержит ли зимние нагрузки колено. В прошлом году я не стал его оперировать. И в каком оно сейчас состоянии, трудно сказать. Там уже столько рубцов, что МРТ и КТ до конца ситуацию не проясняют.

– **На домашнем турнире вас было трудно узнать из-за бороды. Это новый имидж?**

– Нет, просто в Меттменштеттене решил дать возможность коже отдохнуть. А дома потом жалко было сбривать бороду. Но на восстановительном сборе в Израиле расстался с нею. Поскольку там мы практически не тренировались, а в основном плавали и загорали, набирались сил перед выходом на снег. Я брал с собой сына Платона, с которым отлично отдохнули. А девчонок с учетом того, что младшенькой Марианне еще только пять месяцев, оставляли дома на хозяйстве. Я подумывал о том, чтобы, пользуясь случаем, сделать в Израиле диагностику спины и коленей. Но решили пойти по проторенному Лешей Гришиным и Димой Дащинским пути – обследоваться в известной немецкой клинике в Кёльне. Это важно сделать перед грядущей зимой, чтобы в олимпийском сезоне ни на что не отвлекаться. Сейчас как раз и собираюсь в поездку.

– **Магистратуру Университета физкультуры закончили?**

– Да. И поступил на юридический факультет Академии управления при президенте, уже на второй курс перешел. Учиться, конечно, нелегко, порой приходится заставлять себя. Но интересно… Мне кажется, юристы в спорте сегодня востребованы. Почему бы в этой сфере себя не попробовать?

– **Подаренную Юрием Чижом квартиру в Троицком предместье довели до ума?**

– Признаться, не очень жалую подобные вопросы. Но коль это так интересно… Ремонт почти закончен, остались небольшие недоделки. У нас есть крыша над головой, поэтому особо не спешим.

– **После Игр в Сочи у вас родились еще две дочки: в 2014-м – Вера, нынче – Марианна. В связи с этим совмещать тренировки и домашние хлопоты стало сложнее?**

– Забот действительно прибавилось. Но они для меня – в радость. А работа независимо от того, большая у тебя семья или маленькая, есть работа. К ней, если хочешь чего-то добиться, должен относиться со всей серьезностью. Супруга меня в этом полностью поддерживает, за что я ей безмерно благодарен. Со своей стороны я, конечно, стараюсь Наталье помогать. Мне нравится возиться с детьми. Это позволяет отвлечься от тренировок. Марианна у нас, слава Богу, спокойная, по ночам дает поспать. Наверное, и сами мы изменились, к появлению третьего ребенка многому научились. Очень приятно возвращаться домой, где тебя так ждут!

– **Платон еще ничем не занимается?**

– Ему весной только пять лет исполнится. Но он очень подвижный. Поэтому иногда водим его на теннис и не так давно записали в секцию хоккея, где он учится кататься на коньках. С клюшкой они еще, конечно, не работают. По крайней мере пока Антон с удовольствием бежит на тренировки. Ему и кататься нравится, и с детьми общаться…

МАЗАІКА

## Без шанцаў?

Пакуль зборная Беларусі па футболе займае перадапошні радок у сваёй групе.

Як вядома, у мінулыя выхадныя беларуская каманда правяла ў Балгарыі адборачны матч да чэмпіянату свету-2018 і прайграла гаспадарам поля – 0:1.

У групе А пасля чатырох тураў становішча каманд выглядае так: Францыя – 10 ачкоў, Галандыя – 7, Швецыя – 7, Балгарыя – 6, Беларусь – 2, Люксембург – 1 ачко.

Наступны тур адбудзецца аж 25 сакавіка 2017 года. Зборная Беларусі будзе сустракацца са шведамі.

## Хто трэніруе Домрачаву?

Беларуская біятланістка будзе рыхтавацца да зімовай Алімпіяды-2018 пад кіраўніцтвам нарвежскага трэнера Рогера Грубена.

Як паведамляюць расійскія СМІ, спартсменка заявіла, што вельмі паважае гэтага спецыяліста і ведае, што ён мае багаты досвед падрыхтоўкі біятланістак, якія нядаўна перажылі роды.

Нагадаем, 1 кастрычніка Дар'я Домрачава нарадзіла дачку, але ўжо пачала трэніравацца ў Нарвегіі.

## Футбол – не жаночая справа?

Дырэктар футбольнага клуба "Шахцёр" **Юрый Вяргейчык** распавёў, чаму жанчыны не павінны гуляць у футбол.

*"Прызначэнне жанчын – нараджаць дзяцей*, – заявіў ён. – *А якім відам спорту займаешся, так структура арганізму і фарміруецца. Таму я не хацеў бы, каб нашы жанчыны былі, прабачце, з крывымі нагамі, сінякамі і падбітым вокам. Я хацеў бы, каб яны ў нас былі прыгожыя, фігурныя, з веданнем моў, умелі танцаваць.*

ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ

# Містар Хайд і доктар Джэкіл

*Гульня хакейнага мінскага "Дынама" ў апошні час выклікае супярэчлівыя пачуцці.*



Матч "Зубраў" на дамашняй арэне з навічком Кантынентальнай хакейнай лігі – кітайскім "Куньлунем" – стаў для многіх балельшчыкаў той кропляй, якая перапоўніла чашу цярпення. І справа нават не ў тым, што прайгралі кітайцам, якіх, дзеля справядлівасці, у кітайскім клубе нескладана пералічыць – іх там усяго двое. А ў астатнім клуб сфарміраваны з прафесіянальных замежных ігракоў. Але ж у стартавых матчах сезона "Дынама" паказвала неверагодную сілу волі і жаданне змагацца да апошняга. Каманда магла 0:3 прайграваць, а ў выніку атрымлівала валявую перамогу. А тут – пяць паражэнняў запар!

*"Траўмы хакеістаў, праблемы з абаронай"*, – апраўдваюцца трэнеры.

Можа быць, і так. Але, як мне падаецца, тут іграе сваю ролю яшчэ і псіхалогія. Няма веры – няма перамогі. Гэтага, да слова, і настаўнік "Дынама" Крэйг Вудкрафт не адмаўляе. Маўляў, многія хакеісты прайграюць яшчэ да таго, як выйшлі на лёд. А пасля матча з "Куньлунем" выказаўся больш вобразна: *"Напэўна, многія чыталі "Дзіўную гісторыю містара Хайда і доктара Джэкіла". Пра чалавека з двума супрацьлеглымі бакамі. Гэта тое, што можна сказаць пра нашу гульню ў апошні час. Здаецца, заўсёды выходзім перамагаць, але на справе выглядаем зусім іначай. Тую частку, якая хоча выйграць, мы пастаянна вучым, трэніруем, удасканальваем. Але на лёдзе з'яўляецца і другая частка, якая робіць ад матча да матча адны і тыя ж памылкі. Вось вам і вынік. Нам перашкаджаюць перамагаць нявопытнасць, эгаізм і глупства".*

Калі гэта так, то з боку ігракоў зусім ужо эгаістычна выглядае невыразная гульня, у той час як балельшчыкі "Зубраў" – адны з самых удзячных у Кантынентальнай хакейнай лізе, а "Мінск-Арэна" – самая наведвальная пляцоўка ў КХЛ. У сярэднім дамашнія матчы мінскага "Дынама" збіраюць прыкладна па 13 тысяч гледачоў. У параўнанні з тым жа "Куньлунем", на дамашнія гульні якога ў Кітаі прыходзяць усяго па 500–700 чалавек, запаўняльнасць лядовага палаца ў Мінску – космас! Але пры такім падыходзе да справы і сапраўдныя балельшчыкі могуць адвярнуцца. Тым больш што гэта ўжо адбываецца: наведвальнасць арэны імкліва зніжаецца. Напрыклад, на гульні з "Куньлунем" прысутнічала 11.867 гледачоў.

Відавочна, што "Дынама" зараз трапіла ў крызіс, выбірацца з якога трэба агульнымі намаганнямі. Трэнер шукае нейкія рашэнні, але ці будзе эфект – пакажа час (*дарэчы, у апошнім матчы "Зубры" перамаглі хабараўскі "Амур" – 3:0*).

Зрэшты, балельшчыкі ўжо прызвычаіліся: "Зубры" нармальна стартуюць, але потым сілы чамусьці пакідаюць каманду, і яна бясслаўна завяршае сезон. Сёлета ў "Дынама" ёсць усе магчымасці абвергнуць гэта. Прасіў жа Аляксандр Лукашэнка летам гэтага года старшыню назіральнага савета ХК "Дынама-Мінск" Ігара Шуневіча, які да таго ж міністр унутраных спраў, каб у гэтым сезоне каманда "зноў не зняславілася перад беларускім народам".

**Алесь СІВЫ.**

КРЫЖАВАНКА

# Восеньскі накцюрн

*Выбітныя кампазітары – на беларускай зямлі*



**Па гарызанталі:** 3.13-я … "Бабій ЯР" – буйны музычны твор вядомага кампазітара Дзмітрыя Шастаковіча, з якім ён прыязджаў у Мінск у 1963 годзе. Прадзед кампазітара шляхціц Пётр Шастаковіч нарадзіўся на Мядзельшчыне, у в.Шэметава, а дзед Баляслаў за ўдзел у паўстанні 1863–1964 гг. быў сасланы ў Сібір. 9.Пробны выраб. 10."… музыкі – кранаць сэрцы" (І.Бах). 11.Асноўны матыў, які паўтараецца на працягу ўсяго музычнага твору. 12. … – справе вянец (прык.). 15.Плаўны танец. 16."Чым горшы … у спявачкі, тым меней на ёй адзення" (Т.Лявіцкая). 18.Мужчынскае імя. 19.Беларуская багіня прыгажосці, апякунка шлюбу. 20.Крык сабакам пры цкаванні звера. 21.Невялікі пакаёвы сабака. 24."Іграй, дудка, пайду ў …,//Люблю дзевак,каб іх пранцы" (прыпеўка). 25.Песні. 28.Запал, моцнае захапленне. 32.Мадэст … – вядомы рускі кампазітар, продкі якога паходзілі з беларускай зямлі. 34."Страшны …" – опера выдатнага беларускага кампазітара, дырыжора Станіслава Манюшкі, які нарадзіўся на Міншчыне. 35.Паэт, пясняр. 36."Даставай, даставай, даставай, Язэп, … !//Вечар сцеле туманы" – з песні "Даставай, Язэп, …" (сл.Л.Пранчака, муз. Зм.Еўтуховіча).

**Па вертыкалі:** 1."… – паэзія паветра" (Ж.Поль). 2."… Кіхот" – балет сусветна вядомага амерыканскага кампазітара М.Набокава, які нарадзіўся ў в.Любча, што на Навагрудчыне. 3.Хто людзей весяліць, за таго ўвесь … стаіць (прык.). 4.Адметны знак на чым-небудзь. 5.Гарадскі пасёлак, чыгуначная станцыя ў Шумілінскім раёне. 6.Суканыя каляровыя ніткі для вязання. 7.Адзін з асноўных элементаў стылю хіп-хоп музыкі. 8.Артыст, выканаўца сольнай партыі. 13.Невялікі фартэп'янны твор лірычнага зместу. 14."…, цымбалкі, цымбалікі звонкія!//Жывая душа беларускай зямлі" – з верша Н.Гілевіча "Беларускія цымбалы". 16.Страва ў выглядзе клёцак. 17."Руслан і …" – опера рускага кампазітара М.Глінкі, карані роду якога на беларускай зямлі. 22.Евангелічна-баптысцкая секта. 23."І вось смычок цалуе ціха …,//Як быццам праганяе сон апошні" – з верша Г.Бураўкіна "Скрыпка". 26.Адтуліна ў сцяне для дзвярэй, акна. 27.Тое, што і выгіб. 29.Музычны твор, заснаваны на паўтарэнні адной музычнай тэмы некалькімі галасамі. 30.Скачок у вышыню. 31."… перад Раством" – опера рускага кампазітара М.Рымскага-Корсакава, продкі якога былі ўраджэнцамі Беларусі (Літвы); адзін з іх – генерал-маёр Іван Рымскі-Корсакаў – валодаў сядзібай у в.Благава, што ў Чавускім раёне. 33."… Эдып" – опера-араторыя вядомага амерыканскага кампазітара І.Стравінскага, бацька якога, Фёдар, ураджэнец былога Рэчыцкага павета.

### АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ

**Па гарызанталі:** 3.Сімфонія. 9.Узор. 10.Мэта. 11.Лейтматыў. 12.Канец. 15.Вальс. 16.Голас. 18.Акім. 19.Лада. 20.Цюга. 21.Шпіц. 24.Танцы. 25.Спевы. 28.Азарт. 32.Мусаргскі. 34.Двор. 35.Баян. 36.Гармонік.

**Па вертыкалі:** 1.Музыка. 2.Дон. 3.Свет. 4.Метка. 5.Обаль. 6.Ірыс. 7.Рэп. 8.Саліст. 13.Накцюрн. 14.Цымбалы. 16.Галушка. 17.Людміла. 22.Штунда. 23.Струны. 26.Праём. 27.Выгін. 29.Фуга. 30.Скок. 31.Ноч. 33.Цар.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ.**

*г.Дзяржынск.*

УСМІХНІЦЕСЯ...

***

Прыходзіць муж з працы вельмі вясёлы. Садзіцца вячэраць і ўвесь час усміхаецца. Жонка пытаецца:

– Ты чаго такі задаволены?

– З працы звольнілі.

– Што ж тут вясёлага?!

– Дык астатніх пасадзілі...

***

– Як у вашай сям'і адзначаюцца дні нараджэння?

– Вельмі проста. Дзень нараджэння жонкі – у рэстаране, мой – чырвоным алоўкам у календары.

***

Жонка:

– Дарагі, давай купім машыну, я навучуся кіраваць, паедзем у падарожжа, свет пабачым…

Муж:

– Той ці гэты?



***

Культурны чалавек ніколі не скажа госцю: «Колькі ўжо можна сядзець! Я стаміўся, сыходзьце нарэшце!» Ён скажа: «У мяне яшчэ сямнаццаць альбомаў сямейных фатаграфій, зараз я дастану іх з антрэсоляў...»

***

Сімпатыя – гэта калі падабаецца знешнасць. Закаханасць – гэта калі падабаюцца знешнасць і характар. Каханне – гэта калі «не разумею, што я ў ім знайшла!!!».





Рэкламны аддзел: narodnayav@gmail.com
тэл.: +375 29 8 444 725, +375 29 111 30 77, +375 17 328-66-09

Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, правы ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 14.11.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 24 020 экз. Заказ № 4347

9 772071 964000 16089